 

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 42 (973) ГОД XIX 20 КАСТРЫЧНІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## У Нацыянальнай КАМІСІІ

30 верасня г.г. у гмінным цэнтры культуры ў Міхалове Беластоцкага павету адбылося выязное пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта партыі. Камісія правяла аналіз грамадскай і культурна-асветнай дзейнасці беластоцкага павятовага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства за паўтара года. З дзейнасцю аддзела знаёміў камісію старшыня праўлення аддзела Я. Цялушэцкі.

Беластоцкая павятовая арганізацыя БГКТ налічвае 430 членаў, згуртаваных у 24 вясковых гуртках БГКТ. У мінулым годзе былі створаны новыя гурткі БГКТ у Васількове, Калодным і Каматаўцах. Разрасліся гурткі ў Меляшках, Новай Волі, Гарадку і Скрабляках. У павятовай арганізацыі БГКТ дзве трэція складае моладзь.

Усе члены БГКТ прымалі актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі ў Сейм і рады нарадовыя, у грамадскіх чынах для дабра свайго асяроддзя ў гонар святкавання 30-годдзя Народнай Польшчы. Заслужыліся ў іх асабліва члены БГКТ з Калоднага, Новай Волі, Рыбакоў, Міхалова, Баброўнікаў. Усе гурткі БГКТ урачыста святкавалі знамянальныя гадавіны і дзяржаўныя святы. Адбылося дзесяткі акадэмій, конкурсаў, два народныя фэстыны, якія згуртоўваюць найбольшую колькасць насельніцтва — па 4-5 тысяч на кожным фэстыне. У гуртках адбылося каля дваццаці сустрэч з прадстаўнікамі партыйных і адміністрацыйных павятовых улад, аўтарскіх сустрэч, сустрэч з журналістамі тыднёвіка „Ніва“, з афіцэрамі, лекарамі.

У многіх вёсках дэманстраваліся савецкія кінафільмы. Вялікім зацікаўленнем карысталіся ў гуртках конкурсы на беларускую песню і агляды аматарскіх тэатральных калектываў. У Беластоцкім павеце дзейнічае сем калектываў: пяць тэатральных, харавы і вакальна-музычны. Сёлета ўрачыста святкаваў 20-годдзе сваёй дзейнасці харавы калектыў з Гарадка. Ён быў узнагароджаны адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны“. З нагоды 30-годдзя ПНР былі ўзнагароджаны таксама паасобныя члены Таварыства.

Беластоцкі павятовы аддзел БГКТ наладзіў цеснае супрацоўніцтва з павятовымі партыйнымі, адміністрацыйнымі, маладзёжнымі і іншымі арганізацыямі і ўстановамі. Аддзел з'яднаў сабе ахвярных і з немалой ініцыятывай людзей. Яны і згуртоўваюць актыў дзеля шырокай дзейнасці ў гуртках, а перш за ўсё ў тых мясцовасцях, у якіх пражываюць.

У працы павятовага аддзела БГКТ не абыйшлося таксама без цяжкасцей і розных перашкод. Аддзел не мог забяспечыць свае гурткі сцэнічнымі творамі для мастацкай самадзейнасці. Адчуваецца сур'ёзны недахоп адпаведных зборнікаў з п'есамі на сучасныя тэмы. Замала папулярызаваліся беларускія кніжкі і газеты.

Пасля інфармацыі старшыні аддзела адбылася дыскусія. Канцэнтравалася яна на навучанні беларускай мовы ў школах; на шырэйшым зацікаўленні беларускай кніжкай і тыднёвікам „Ніва“ дзякуючы лепшаму забеспячэнню імі гмінных бібліятэк, іх філіялаў і бібліятэчных пунктаў, школьных бібліятэк; на арганізацыйных справах у галіне планавання фінансавых выдаткаў на культурныя мерапрыемствы з усімі супрацоўнічаючымі з аддзелам установамі і арганізацыямі. (ця)

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"**

**Наш з'езд ● Пасля трыццацігадовага расстання ● Ахрымаўцы ● Табольск ● Аповесць пра прарока Альяша ● Весткі з Новага Корніна, Міхноўкі, Белавежы, Рудутаў, Бельска, Гайнаўкі і інш. ● Песня „Zabrałaś mi lato”.**


*Агульны від на залу з'езду.*

## У АДНОЙ СЯМ'І

28 і 29 верасня — гэта дні асаблівай урачыстасці ў Бельскім агульнаадукацыйным беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча. Ужо з самай раніцы запаўнялася школа сваімі выпускнікамі, якія прыехалі сюды на святкаванне трыццацігоддзя — свой I з'езд выпускнікоў і выхаванкаў. Наступаюць сустрэчы тых, што часта сядзелі на адной лаўцы, але пасля заканчэння школы не бачыліся часам па дваццаць год. А прыехалі сюды з усіх куткоў нашай Айчыны.

Прыехала іх многа — амаль 300 выпускнікоў і каля 100 настаўнікаў, тых, якія працавалі ў школе, і тых, што цяпер працуюць. Гэтыя апошнія часта выступаюць і як выпускнікі і як настаўнікі ліцэя.

Вялікі гімнастычны зал ледзь змяшчае прысутных. Праз момант урачыстае адкрыццё першага з'езду. Прыбываюць запрошаныя госці, а сярод іх кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП — **З. Рыбіцкі,** візітатар Міністэрства асветы і выхавання — **Ст. Янкоўскі,** прадстаўнік аддзела навукі і культуры ВК ПАРП — **І. Грабоўская,** кіраўнік аддзела агульнаадукацыйнага школьніцтва КОС — **В. Філіпкоўскі,** старшыня ГП БГКТ — **М. Самоцік,** а таксама гаспадары Бельскага павету на чале з I сакратаром ПК ПАРП — **А. Лазоўскім** і начальнікам павету — **Д. Ігнацюком.**

З дакладам аб гісторыі і дасягненнях школы выступіў дырэктар школы **А. Карпюк.** З'езд прывіталі прадстаўнікі цэнтральных, ваяводскіх і павятовых улад. Словы прывітання пераслаў удзельнікам з'езду I сакратар ВК ПАРП — **З. Куроўскі.** Выступалі выпускнікі ліцэя — першы — **С. Сычэўская-Кастыцэвіч** і мінулагодні, з дыпломам нумар 1000 — **Т. Філімамюк.**

Кожнае слова выступаючых з увагай слухаюць прысутныя, бо гэта ж і школа незвычайная. Яна ж разам з нашай Айчынай святкуе трыццацігоддзе, бо паўстала ў годзе, калі быў аб'яўлены Маніфест ПКВН. „Ваша школа, — сказаў візітатар Ст. Янкоўскі, — з'яўляецца такой самай і крышку іншай, бо рыхтуе кадры дзяржаве, але і кадры для прадаўжэння прыгожай беларускай культуры“. Цяжка апісаць узрушэнне ў зале, калі выступае наймалодшая вы-

**(Працяг на стар. 3)**


*Хор ліцэя ў час канцэрту*

**Запрашаем!**

## ПЕСЕННЫ І ТЭАТРАЛЬНЫ КОНКУРСЫ

Новы культурна-асветны сезон ужо распачаўся. Побач з іншымі культурна-асветнымі ўстановамі і арганізацыямі ў мастацкім самадзейным руху ўжо актыўна дзейнічаюць гурткі і аддзелы Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Падобна, як у папярэднія гады, **Галоўнае праўленне БГКТ і рэдакцыя „Нівы“ аб'явілі** традыцыйныя ўжо і надта папулярныя мастацкія мерапрыемствы: **конкурс „Беларуская песня - 75“ і агляд самадзейных тэатральных калектываў.** У іх арганізацыі і правядзенні выразілі гатоўнасць удзельнічаць суарганізатары: Аддзел культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, Ваяводскі і павятовыя дамы культуры, ваяводскія праўленні Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі, Таварыства польска-савецкай дружбы, сельскагаспадарчых гурткоў, гмінных спулдзельняў, Ваяводская рада прафесіянальных саюзаў, Рабочая выдавецкая спулдзельня „Друк-Кніга-Рух“ і Ваяводская спажывецкая спулдзельня „Сполам“. Прэзідыум ГП БГКТ зацвердзіў **правілы** гэтых абодвух, самых важных культурных мерапрыемстваў нашага таварыства.

Конкурс **„Беларуская песня - 75“** ставіць сваёй мэтай выявіць здольных спевакоў, разбудзіць зацікаўленне мясцовымі народнымі песнямі, адкрываць і папулярызаваць самыя каштоўныя беларускія песні. Ён будзе праходзіць на **трох** ступенях: агляд ў асяроддзі, у аддзелах БГКТ і фінальны цэнтральны агляд. У конкурсе могуць прымаць удзел самадзейнікі: **салісты, дуэты і калектывы ад 3 да 8 асоб.** Кожны ўдзельнік ці калектыў абавязаны выступіць з **дзвюма** песнямі, пры гэтым журы не будзе ацэньваць твораў, з якімі ўдзельнік конкурсу выступаў у папярэднія гады. Ацэнка твораў будзе праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: **фальклорная песня і сучасная песня.** Пры гэтым будуць прымацца пад увагу галасавыя вартасці, інтэрпрэтацыя і выбар рэпертуару. Узрост удзельнікаў — ад 15 год і болей. Школьная моладзь можа прымаць удзел толькі ў адным конкурсе: у школьным або для дарослых. Арганізацыйныя камітэты створаць камісію ў складзе 3-7 асоб, якая закваліфікуе найлепшых удзельнікаў на агляды вышэйшай ступені. Агляды ў **асяроддзях** адбудуцца ў **снежні 1974** года, у **аддзелах — у студзені** і **цэнтральныя — ў лютым 1975** года.

**Агляд самадзейных тэатральных калектываў** мае на мэце папулярызаваць дасягненні ў галіне тэатральнага мастацтва, падрыхтоўваць самыя шырокія колы грамадства да ўспрыняцця тэатральнага мастацтва, пашыраць выхаваўчы сацыялістычны змест у жыцці, развіваць уменне гаварыць правільна па-беларуску. Праводзіцца ён будзе на дзвюх **ступенях: у аддзелах** БГКТ і на **цэнтральным** аглядзе. У ім могуць прымаць удзел самадзейныя акцёры ад 15 год і болей. Кожны калектыў абавязаны выступіць з **адной** п'есай. Журы не будзе ацэньваць тых калектываў, якія захочуць паўтарыць п'есу, з якой ужо выступалі на аглядах у апошнія два гады. Ацэнка будзе праводзіцца ў **дзвюх** катэгорыях: **тэатральнай п'есы** і **фальклорнай інсцэнізацыі.** Будзе ацэньвацца выбар рэпертуару, мастацкасць слова, інтэрпрэтацыя і дэкарацыя. Для правядзення элімінацый у аддзелах праўленні гэтых аддзелаў створаць камісію з удзелам прадстаўніка ГП БГКТ, якая пасля праслухання ўсіх прыступіўшых да агляду калектываў вызначыць найлепшыя да ўдзелу ў цэнтральным аглядзе. Аддзелы створаць арганізацыйныя камітэты з прадстаўнікоў суарганізатараў агляду. Агляды ў **аддзелах** адбудуцца да канца месяца **лютага** 1975 г., а **цэнтральны агляд — у сакавіку 1975 года.**

Усім удзельнікам конкурсу „Беларуская песня — 75“ і агляду самадзейных тэатральных калектываў арганізатары звернуць кошты падарожжа. Для пераможцаў на ўсіх ступенях абодвух гэтых мерапрыемстваў арганізатары і суарганізатары прадбачваюць **каштоўныя ўзнагароды.**

Запрашаем!

 

Карэспандэнцыя з Брэста

# БРЭСЦКІ ЭЛЕКТРАЛЯМПАВЫ

Брэсцкі электралямпавы завод — адзін з буйнейшых у электралямпавай прамысловасці Савецкага Саюза. Ён разлічаны на выпуск 225 мільёнаў электрычных лямп рознага прызначэння ў год.

У будаўніцтве гэтага прадпрыемства прыняла ўдзел польская фірма „Металэкспарт“.

З 30 тыпаў лямп, якія выпускае сёння завод, 24 атэставаны па вышэйшай катэгорыі, астатнія — па першай. Прадпрыемства экспартуе сваю прадукцыю ў 50 краін свету.

На прадпрыемстве працуе шматтысячны калектыў. У большасці — гэта ўчарашнія выпускнікі сярэдніх школ і прафесіянальна-тэхнічных вучылішч. Сярэдні ўзрост працуючых — 23 гады.

У маладога прадпрыемства ёсць нямала сяброў — прадпрыемстваў — ветэранаў галіны. Яны абменьваюцца паміж сабой тэхнічнай інфармацыяй, творчымі знаходкамі наватараў вытворчасці, дапамагаюць рыхтаваць адзін другому кадры высокакваліфікаваных рабочых. Напрыклад, спачатку на Брэсцкім заводзе ўручную рабілася загрузка нікелевых уставак на аўтамаце. Зразумела, што нават самая лепшая работніца не паспявала за канвеерам. А пропускі вялі да браку.

Дапамог вопыт падобнага прадпрыемства ў сібірскім горадзе Томску, дзе пабывала група брэсцкіх інжынераў. У след за гэтай аперацыяй былі механізаваны іншыя працэсы зборкі лямп. І вось як гэта адбілася на прадукцыйнасці працы. Пры ранейшых затратах працы цяпер кожная з брыгад зборачнага цэха дае за змену да 6 тысяч лямп пры норме 4,3 тысячы.

Тое, што выгадна заводу, выгадна кожнаму рабочаму. Адміністрацыя і грамадскія арганізацыі дапамагаюць рабочым павышаць сваё прафесіянальнае майстэрства, а значыцца, і больш зарабляць. Для тых, хто не мае неабходных ведаў і хацеў бы павысіць свой агульнаадукацыйны ўзровень, пры заводзе створана вячэрняя сярэдняя школа, працуюць курсы павышэння кваліфікацыі. Больш 400 маладых рабочых і работніц без адрыву ад вытворчасці займаюцца ў сярэдніх і вышэйшых тэхнічных вучэбных установах.

На заводзе клапоцяцца і аб паляпшэнні быту, культурнага адпачынку рабочых. За кошт прыбыткаў пабудавана 4 дамы на 460 кватэр, 2 дзіцячыя сады-яслі, сталовая, паліклініка, дом адпачынку за горадам, піянерскі лагер.

Сацыяльны план развіцця калектыву, складзены самімі рабочымі на цэлую пяцігодку наперад, прадугледжвае далейшае паляпшэнне працы, павышэнне матэрыяльнага дабрабыту, будаўніцтва дзіцячых дашкольных устаноў, развіццё фізкультуры і спорту.

**Аляксей Гурэцкі**
Фота Э. Трыгубовіча



*У аддзеле тэхнічнага кантролю.*



*Спіральны цэх.*



*Камутатарныя лямпы.*

## ШТО НОВАГА?

## ВЕТЭРЫНАРНАЯ ЛЯЧЭБНІЦА

Нядаўна ветэрынарная лячэбніца ў Нараўцы атрымала новую сядзібу. Ёсць там спецыяльнае памяшканне для выконвання лячэбных працэдур жывёле, ёсць памяшканне і на лякарствы, і на прыём кліентаў, ёсць таксама жылыя памяшканні.

Лекар-ветэрынар Сяргей Раманчук расказаў нам аб тым, што цяпер лячэбніца займаецца найбольш прафілактыкай, а таксама сезоннымі хваробамі жывёлы.

Да такіх сезонных хвароб залічаюцца хваробы страўніка ў коней. Пасля жніва людзі рыхтуюць аброк з ячшэ не зусім высахшага, свежага збожжа, а гэта вельмі шкодзіць на арганізм каня. Ды наогул заўсёды коні дрэнна адчуваюць сябе, калі пасля цяжкай працы кормяць іх аброкам. Аб гэтым, на жаль, не ўсе гаспадары ведаюць. Калі конь змучаны, нельга даваць яму аброку. У гэты час можна даваць каню толькі сена, а калі конь адпачне, тады даюць яму аброк. Нядаўна хваробай страўніка хварэў конь у Хведара Зубрыцкага і Івана Раманчука з Альхоўкі, якія звярталіся ў гэтай справе да лекараў гэтай лячэбніцы.

На неасвядомленасць гаспадароў, асабліва маладых гаспадароў, лекары ветэрынарнай лячэбніцы ў Нараўцы звяртаюць асаблівую ўвагу пры сустрэчах і размовах з сялянамі.

Восенню часта каровы давяцца бульбаю. Лекар Раманчук нядаўна ратаваў карову ў вёсцы Забрады ў Аляксандра Скепкі і Андрэя Аўласюка з Гушчэвіны. Ветэрынарная служба нясе вялікую дапамогу сялянам. Як вядома, конь пакуль што ў большасці гаспадароў з'яўляецца асноўнай цягавой сілай. Падзенне каня — гэта велізарны ўбытак у гаспадарцы. Гаспадар, як кажуць, без каня — як без рук. Здараюцца не толькі хваробы коней, але і іх калецтва. Напрыклад, 18 верасня конь Міхася Засіма з Семяноўкі прабіў трыбух на астраколе так, што павылазілі кішкі. Дзякуючы хірургічнай аперацыі лекара Сяргея Раманчука, конь быў выратаваны, а гаспадар жа прасіў лекара, каб уколам усмерціў каня, бо не верыў, што ён вытрымае.

Лекарам ветэрынарыі з Нараўкі прыходзіцца не толькі лячыць жывёлу, але і ратаваць кароў падчас цялення і мацёраў падчас апаросу. Прыходзіцца часам прымяняць кесарава сячэнне. У Васіля Мележа з Гушчэвіны такім чынам нядаўна была выратавана мацёра і 11 парасят. Лекар Раманчук выратаваў таксама кесаравым сячэннем карову ў Капітаншчыне. Пры ўсіх цяжэйшых аперацыях прымяняе ён наркоз, і тады спакойна выконвае хірургічныя аперацыі. Лячэбніца мае шмат працы, якой у немалой ступені спрыяе развіццю жывёлагадоўлі.

**М. Хмялеўскі**

## БГКТ ХРОНІКА

■ Пачаўся новы культурна-асветны год. Адбыліся пасяджэнні ў паветах і гмінах, на якіх дзеячы культуры прынялі напрамкі дзейнасці ў сваіх адміністрацыйных асяроддзях. 29 верасня такое пасяджэнне арганізавалі гмінныя ўлады ў Гарадку. Шмат увагі было адведзена працы мастацкіх калектываў БГКТ. Пасля гэтай нарады адбылася мастацкая частка, у якой выступіў гарадоцкі жаночы хор БГКТ пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы.

■ 23 верасня харавы і танцавальны калектывы БГКТ з Беластока далі два канцэрты ў Сямяціцкім павеце — у Мілейчыцах і Вілінаве. Прысутныя захапляліся беларускімі, рускімі і польскімі песнямі і танцамі і запрашалі самадзейнікаў прыехаць яшчэ раз у іх мясцовасць.

■ Нядаўна адбыліся паватовыя дажынкі ў Гайнаўцы, на якія кожная гміна падрыхтавала мастацкую частку, што складалася найбольш з беларускага рэпертуару; выканаўцамі былі ў асноўным члены БГКТ.

■ Ад 1 кастрычніка інструктарам ГП на Беластоцкі павет працуе Марыя Пракапюк — выпускніца Бельскага беларускага ліцэя.

■ 5 кастрычніка з нагоды XXX гадавіны грамадзянскай міліцыі і ОРМО гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў спатканне з паручнікам міліцыі Мечыславам Брыем, які расказаў аб гісторыі і дзейнасці міліцыі на працягу мінулых 30 год і звярнуў асаблівую ўвагу на яе працу ў горадзе Беластоку.

■ Адным з элементарных абавязкаў кожнага члена БГКТ з'яўляецца рэгулярнае аплочванне членскіх складчын. Многія гурткі БГКТ ужо ў 100 прац. аплацілі належнасць за гэты год. У апошні час гэты свой абавязак выканалі члены БГКТ у Гурным (Гайнаўка) і Чаромсе. (мх)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 20.X.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.15 Antena. 10.30 Drogi zwycięstwa — film pol. 12.00 Dziennik. 12.20 Agrokompleks Sudety. 12.35 Zespół Pieśni i Tańca „Rapsodia" z Rumunii. 12.50 Piosenka dla Ciebie. 13.40 Zodiak. 14.20 Dla dzieci. 14.50 Nie tylko dla pań. 15.20 Lektury Pegaza. 15.35 W starym kinie. 16.25 Refleksje ob. 16.40 W dniu Imienin — dla Ireny. 17.05 Los. Toto-Lot. 17.20 Przyjąć czy odrzucić. 18.10 Sport. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobranoc dla dor. 20.25 Telefon — film TVP. 21.25 Sam na sam z reż. filmu „Potop", J. Hoffmanem. 22.25 Sport.

**Poniedziałek 21.X.** 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 15.55 Nurt — Nauki Polit. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Echo stad. 17.55 Kur. Biał. 18.10 Zespół „Niebo". 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Mistrz świata. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: R. Emmet Sherwood — Skamieniały las. 22.05 Gra Elżbieta Chojnacka. 22.40 Dziennik. 22.55 Oferty. 23.10 Sport.

**Wtorek 22.X.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 10.00 Jak hartowała się stal — film radz. odc. III. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. St. Wyspiański „Wesele" cz. II; 12.00 (kl. IV lic.) J. Szaniawski „Dwa teatry"; 12.55 (kl. lic.) Rodzina Współczesna — Koleżeństwo, przyjaźń, miłość. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Bot. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 W pracowni grafika — film CSRS. 17.30 Studio Tel. Mł. 18.10 Zespół pieśni i tańca z Istambułu. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Pod ostrym kątem. 19.10 Przyp. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Jak hartowała się stal — film radz. odc. III. 21.25 Sport. 21.55 Interstudio. 22.35 Recital Sławy Przybylskiej. 23.00 Dziennik.

**Środa 23.X.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Bot. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. O sile i jej mierzeniu. 10.00 Noc w operze — film fab. USA. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 15.55 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Koncert pios. harcerskich. 17.10 Kr. Warsz. i Maz. 17.30 Sport. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Noc w operze — film fab. USA. 21.55 Od stępki do wodowania. 22.10 Hanka Bielicka. 22.35 Dziennik. 22.50 Sport.

**Czwartek 24.X.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 10.00 Kluczyk — film fab. RFN. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. St. Wyspiański „Wesele" cz. III; 12.00 (kl. VIII) Władysław Reymont; 12.55 (kl. IV lic.) Polska poezja współczesna cz. I. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Mech. rol. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Skradzione akta. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Patrol. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Kluczyk — film. fab. RFN. 21.20 Sport. 21.30 Czworobok. 22.40 Dziennik. 22.55 Kr. Mistrz. Św. w gimn. sport.

**Piątek 25.X.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mech. rol. 9.30 Telefon — film TVP. 11.05 Dla szkół: (kl. II) Czarodziejskie słowa; 12.00 (kl. VIII) Wych. ob. Rada i naczelnicy. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Hod. zwierz. 15.55 Nurt — Filoz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.15 Prawda w oczy. 17.40 Dla młodzieży. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Opowieści Biblijne cz. II. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Mój program" przedst. H. Mikołajska. 21.10 Panorama. 21.50 Recital Marion. 22.15 Dziennik. 22.30 Sport.

**Sobota 26.X.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Nauka o czł. Postawa; 10.00 (kl. VII) Zoolog. Stułbiopławy, krążkopławy. 10.30 Gdzie jest wasz dom — film fab. radz. 13.35 Tech. Rol. Mat. 14.20 Upr. rośl. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Red. Szk. zapowiada. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 15.40 Inf. Wyd. 16.00 Dziennik. 16.10 Sobótka. 16.35 W krainie Czarnej Hańczy. 17.15 Korepetycje muzyczne. 18.00 Przyp. radz. 18.05 Szare na złote. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Wielka Restauracja — film fab. franc. 21.35 Progi i Bariery. 22.35 Dziennik. 22.55 Sport. 23.20 Pr. estrad.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 18.X** — 7.30 Spektakl. 8.30 Film fab. 17.00 Piosenka — 74. 17.55 Film fab. 19.30 Koncert.
**Sobota 19.X** — 8.00 Film fab. 12.00 Hokej. CSKA — Skrzydła Rad. 17.35 Spektakl. 21.05 Pr. rozr.
**Niedziela 20.X** — 11.30 Film fab. 14.30 Koncert życzeń. 16.45 Klub film. 18.00 Film dok. 19.30 Spotkanie z kompozytorem.

## КІНО

**Białowieża** Gwiazdy są oczami wojownika — jugos. 22—23. Tak tu cicho o zmierzchu — radz. 24—25. Prywatne życie Scherloka Holmesa — angl. 26—27.

**Czeremcha** Dziewczyna z gór — jug. 26—27.

**Czyże** Nocny kowboj — USA. Wspomnienia z przeszłości — RFN 23—27.

**Dubicze Cerkiewne** Białe czaple — bułg. Śmiech w ciemności — angl. 23—27.

**Gródek** Nie ma mocnych — pol. 26—27.

**Michałowo** El Dorado — USA 22—23. Kaprysy Marii — franc. 24—25. Pozwólcie startować — radz. 26—27.

**Mielnik** Chłopi — pol. 23. Jakow Bogomołow — radz. 26—27.

**Milejczyce** Kajtek i siedmiogłowy smok — węg. 22—23. Ostatni nabój — rum. 24—25. Miasto w czerni — węg. 26—27.

**Narew** Spragniona miłości — bułg. Nie ma mocnych — pol. 23—27.

**Nurzec** Czerwone i złote — pol. 22—23. Ostatni po bogu — pol. 24—25. Echa dawno minionych dni — radz. 26—27.

**Orla** Pippi w kraju Taka-Tuka — szwedz. I pozdrawiam jaskółki — czes. 22—26.

**Rajsk** Co ważne w życiu — czes. Powrót na miejsce wypadku — jug. 23—27.

**Suchowola** Pułapka na generała — jug. Piekło i niebo — pol. 23—27.

B.Z.Graf. zam. 2738 O-3

(Працяг са стар. 3)

## Сустрэчы з пасламі

гэтых школах. Бяда аднак у тым, што толькі ў пасёлку Чаромха існуе настолькі прасторны гмах, што ў ім свабодна можна змясціць гмінную школу. Іншыя школы — цесныя.

Яшчэ інфармацыя аб выніках гаспадарчага развіцця за 8 месяцаў — і паслы раз'язджаюцца. Анна Келч — у Белавежу, Казімеж Галіцкі — у Кляшчэлі, Ян Война — у Дубічы Царкоўныя, а Уладзіслаў Задыковіч — у Чыжы. Усе — бліжэй сваіх выбаршчыкаў. Крыстыну Маршалэк неадкладныя справы паклікалі аж у Цехановец.

Я з паслом Задыковічам і радным ВРН **Мікалаем Самоцікам**, старшынёю ГП БГКТ, адпраўляюся ў Чыжы. Дзень будны, пасляабедзенная пара. Ці прыйдуць людзі на гэтую сустрэчу? Яны ж заняты ў полі. Аднак святліца запоўнілася. Чыжоўская гміна — самая высокатаварная ў павеце. Начальнік гміны, тав. Леўчук, мае чым пахваліцца. Мала сельскагаспадарчых машын, асабліва трактараў і камбайнаў, няма чым нарыхтоўваць матэрыял на сілас. А найбольш прэтэнзій плыве ў адрас ПКС, які ў асноўным возіць цяпер вучняў у школу. Людзі гавораць, што ніколі не вядома, ці будзе аўтобус ПКС, ці не будзе.

Пасол Задыковіч слухае, запісвае, накапляе матэрыял. Ён добра разумее клопаты чыжоўскіх сялян, бо і сам з'яўляецца гаспадаром, выдатным гаспадаром. Раіць ім, як найлепш распланаваць сабе працу, абяцае дапамагчы. Позна вечарам раз'язджаемся.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 3)

## Адгалоскі

кул не можа быць бясконцым, падаю толькі іх аўтараў і тэмы: Ф. Сяліцкі *„Польска-рускія зносіны ў святле крыніц XIII ст.“*, Э. Гаранін *„Польскія даследаванні „Кіеўскага летапісу“ ў гадах 1900-1970“*, А. Дворскі *„Польскія матэрыялы і праблематыка ў рускіх выданнях Фердынанда Орліча-Ашменьца ў гадах 1816-1818“*, У. Пачынайла *„Сон“ Шаўчэнкі і міцкевічаўская і пушкінская візія Пецярбурга“*, Я. Арлоўскі *„Уладзіслаў Сыракомля і руская літаратура“*, Э. Базеля *„Доля жанчыны ў творчасці Льва Талстога і Жэромскага“*, Т. Шышка *„Постаць польскага „справядлівага чалавека“ ў Мікалая Ляскова“*, Э. Віснеўская *„Васыль Стэфаньк і Станіслаў Пшыбышэўскі“*, Ё. Ауляк *„Дванаццаць год у краіне якутаў“ Вацлава Серашэўскага — польская і руская версіі“*, А. Левандоўская *„Драмы Леаніда Андрэева ў польскай літаратурнай думцы 1904-1914 гадоў“* і А. Кміта *„Творы Максіма Горкага для дзяцей і пра дзяцей у Народнай Польшчы“*.

Словам, часопіс абраў трапны напрамак і змяшчае вельмі каштоўныя працы, а гэта гарантуе яму вялікую папулярнасць і вядучую ролю ў вывучэнні польска-ўсходнеславянскіх літаратурных узаемасувязей. **Мікалай Гайдук**

1) Studia Polono-Slavica-Orientalia, Acta literaria I, Pod redakcją Bazylego Białokozowicza, Ossolineum, Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk 1974, str. 336, cena 75 zł.

# ГАЙНАЎКА - 1974



## БОЛЬШ КВАТЭР НА НОВЫХ ПАСЁЛКАХ

Жыллёвы кааператыў у Гайнаўцы ў апошнія гады значна павялічыў колькасць жыллёвых кватэр. Закончылася пабудова аднаго з пасёлкаў у раёне вуліц Леніна, Вызвалення і Ажэшкі. На гэтым пасёлку ў чэрвені гэтага года былі перададзены ў карыстанне гандлёвыя павільёны, кавярня, цэнтры кравецкіх, цырульных і шпалерных (тапіцэрскіх) паслуг. Распачалося будаўніцтва новага гайнаўскага жыллёвага пасёлка ў трохвугольніку вуліц: 1 Мая, Леніна і Рэя. З часам вырасце тут дзевяць чатырохпавярховых будынкаў на 400 жылых кватэр, таксама будуць пабудаваны гаражы, павільёны сферы абслугоўвання.

Жыллёвы кааператыў налічвае 700 членаў і 240 кандыдатаў. Актыўна працуе 12-асабовы савет жыллёвага кааператыва. Найбольш актыўнымі ў ім з'яўляюцца: старшыня — Юры Панасюк, намеснік старшыні — Мікалай Барташэвіч, сакратар — Віктар Бура, Пётр Вільк, Галіна Артэмюк, Яўген Давідзюк, Ірэна Лукашук.

Жыхары гаўнаўскіх жылых пасёлкаў даглядаюць газоны, садзяць дрэўцы, кустарнікі і кветкі. Асабліва дбаюць яны аб чысціні і ўпрыгожванні лесвіц.

Добра працуюць блокавыя камітэты. Яны паклапаціліся аб нумарацыі ўсіх пасёлачных будынкаў, аб лепшай працы цэнтраў паслуг і гандлёвых павільёнаў.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## ВЫПІСАЦЬ „НІВУ“

можна: у пісьманосца, ля паштовага акенца або ўплачваючы грошы чэкам на рахунак RSW „Prasa — Książka — Ruch” I Oddział Rejonowy w Białymstoku, ul. Kopernika 93, nr konta **102-6-161** NBP I Oddział Miejski Białystok.

Цана падпіскі: на квартал — **7,20** зл; на паўгода — **14,40** зл; на год — **28,80** зл.

Можна таксама «Ніву» выпісаць знаёмым за мяжу. Падпіску на заграніцу прымае: RSW „Prasa — Książka — Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych Warszawa, Wronia 23, konto **1552-6-130109** NBP 13 Oddział Miejski Warszawa. Цана падпіскі для заграніцы вышэйшая за краёвую на 40 працэнтаў. Гадавая — **40,40** зл.

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ



## МІКАЛАЙ ЗАСІМ

Вопытным гаспадаром у нараўкаўскай акрузе з'яўляецца селянін Мікалай Засім з вёскі Ляшукі Гайнаўскага павету. На сваёй дзевяцігектаравай гаспадарцы спецыялізуецца ў свінагадоўлі. Штогод прадае дзяржаве ў сярэднім дваццаць свіней. На пунктах скупкі здае ён тону і больш збожжа, 6-7 тысяч літраў малака.

Перадавы ляшуцкі гаспадар вядзе доследныя палеткі з ячменем і аўсом, разводзіць кароў найлепшай нізінна-чорна-белай пароды. Са збожжавых культур найлепш удаецца ў яго жыта „Данькоўскае залатое“. Збірае ён яго больш 25 цэнтнераў з гектара.

Прыемна зайсці ў хату Мікалая Засіма. У сярэдзіне яна густоўна прыбраная. Жонка Мікалая Засіма мае навейшае кухоннае абсталяванне, новую мэблю, бліскучую печ і пліту з навюсенькіх кафелькаў.

За высокія прадукцыйныя вынікі перадавы гаспадар з Ляшукоў Мікалай Засім у ліпені гэтага года быў узнагароджаны медалем „Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі“.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

**ПЫТАННЕ:** Суд прысудзіў несаліднаму наймальніку памяшкання плаціць кватэрную плату. Судовы выканаўца па прапанове ўласніка дома апісаў мэблю наймальніка. У змове з наймальнікам яго сябра ў судзе даказваў, што мэбля з'яўляецца яго ўласнасцю, бо ён яе адкупіў ад наймальніка; наймальнік гэта пацвердзіў. Ці можа суд спыніць экзекуцыю і як можа бараніцца ўласнік дома перад яўнай камбінацыяй наймальніка?

**АДКАЗ:** Калі судовы выканаўца апіша ў даўжніка прадмет, які ў яго знаходзіцца, але з'яўляецца ўласнасцю іншай асобы, то гэта асоба можа патрабаваць судом звальнення гэтага прадмета ад экзекуцыі. Аднак у справах, якія адносяцца да кватэрнай платы, таму, хто наймае кватэру, прыслугоўвае права залогу прадметаў, якія знаходзяцца ў памяшканні. Гэта азначае, што незалежна ад таго, ці мэбля была прададзена іншай асобе, ці не, суд не можа звольніць гэтыя прадметы з-пад экзекуцыі.

## СІБІРСКІЯ БАЛАДЫ

## ЦЮМЕНШЧЫНА - ЗЯМЛЯ КАЗАЧНАЯ

Дзевятнаццатае ліпеня. Сустрэча ў абласным камітэце КПСС. Выступае першы сакратар. Характарызуе сённяшні стан вобласці, яе заўтрашні дзень. Сакратар гаворыць больш чым гадзіну, падае сотні цыфр, даных, фактаў. Усё з памяці. Не паслугоўваецца ўвогуле запіскамі. Расказ сакратара гучыць, як казка, як легенда. Фантастычнасць праяўляецца і ў прыроднай спецыфіцы Цюменшчыны, і ў тых намерах і планах, якія рэалізуюцца яе жыхарамі.

Цюменская вобласць лічыць 1 мільён 400 тысяч квадратных кіламетраў. На тэрыторыі Цюменшчыны маглі б змясціцца Англія, Францыя, Заходняя Германія, Італія, Галандыя, Данія, Люксембург, разам узятыя, і яшчэ засталося б 11 тысяч квадратных кіламетраў. У паўднёвых раёнах вобласці выступае гарачы клімат, экзатычныя паўднёвыя птушкі і звяры. Тысячы кіламетраў на поўнач, у раёне Ледавітага акіяна, пануюць лютыя марозы і вечная мерзлата. На тэрыторыі Цюменшчыны знаходзіцца 25 тысяч рэк і 450 тысяч азёр.

На гэтай аграмаднай тэрыторыі пражывае ўсяго 1 мільён 400 тысяч чалавек. З гэтага вынікае, што ў вобласці на квадратны кіламетр прыпадае адзін чалавек. У нас жа на 1 квадратны кіламетр прыпадае 90 чалавек.

Многа гадоў Цюменшчыну лічылі краінай, пазбаўленай значнейшай сыравіны. Апошняе дзесяцігоддзе раз назаўсёды перакрэсліла такія меркаванні. На тэрыторыі вобласці адкрыта больш як 100 месц нараджэнняў галоўнага багацця сучаснасці — нафты. Гэта яшчэ не канец. Геолагі і бурыльшчыкі адкрываюць усё новыя і новыя залежы нафты. З адкрытых залежаў нафта плыве шырокай ракой праз дзесяткі трубаправодаў. Між іншым, цюменская нафта ўліваецца ў нафтаправод „Дружба“. У 1965 годзе Цюменшчына дала 1 млн. тон нафты, а ў 1972 годзе давала ўжо больш мільёна тон у тыдзень. У 1975 г. Цюменшчына дасць 130 млн. тон, у 1980 г. — 300 млн. тон. Далейшыя пяцігодкі давядуць колькасць цюменскай нафты да 600 млн. тон, а нават да астранамічнай цыфры — аднаго мільярда тон у год. Параўноўваю гэтыя даныя з Польшчай. Патрэбы нашай краіны на нафту пакуль што яшчэ не дайшлі да 20 млн. тон у год.

Другім вялікім багаццем Цюменшчыны з'яўляецца газ. Адкрыты аграмадныя залежы гэтай сыравіны. Разведаныя ўжо запасы газу ў два з паловай разы перавышаюць запасы ЗША. Цюменшчына можа даваць больш газу, чым яго здабываюць сёння ўсе краіны свету. І нафта, і газ патрабуюць грамадных капіталаўлажэнняў. Трэба будаваць перасыльныя лініі току, трубаправоды, пераапрацоўчыя заводы для нафты і газу, дарогі. Зроблена многа. Пралажана ўжо далёка за 100.000 кіламетраў трубаправодаў рознага тыпу. У тым ліку трубаправоды дыяметрам па 120 см і 140 см. Пабудаваны і будуюцца дарогі, вялікія заводы, перапрацоўваючыя нафту і газ у каўчук, гуму, поліэтылен, спірт, бензін. Вялікія заводы ўжо пабудаваны або будуюцца ў Табольску, Ніжневартоўску, Праўдзінску. У 1975 годзе ў Цюменшчыне здабудзецца больш 50 мільярдаў кубічных метраў газу.

— Пакуль што, аднак, — падкрэслівае сакратар, — мы не ў стане перапрацаваць увесь газ, які ідзе з зямлі. Газ вельмі цяжка ў зямлі закупорыць, калі прарвецца на паверхню, мусіць ісці і ісці. Вы ўбачыце, — гаворыць сакратар, — у многіх мясцовасцях пад-



*Пейзаж Цюменшчыны: вада, агонь і сталь.*

